
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
ComicsBY.by
Vk.com/Comics_BY
ГОТЭМ...
ШЭСЦЬ ГАДОЎ РАНЕЙ...
ШТО БЫЛО ДЗІЎНЫМ...
...ЗНОЎ БУДЗЕ НОВЫМ.
ГЭТА БЫЛО НАШАЙ МЭТАЙ.
МАГЧЫМА, НЕХТА АБВІНАВАЦІЦЬ НАС У ТЫМ, ШТО МЫ ЗАНАДТА ХУТКА І АГРЭСІЎНА СЦІРАЕМ УЛАСНАЕ МІНУЛАЕ. ШТО Ж, Я СКАЖУ ВАМ: «ПЕРШ ЧЫМ КРЫТЫКАВАЦЬ НАШ НОВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК ГОТЭМА...
...ХАЦЯ Б ПАСПРАБУЙЦЕ НАШУ БЯСПЛАТНУЮ КАВУ!»
ХАХАХА ХА!
БАНК
ПАМЯТАЕЦЕ, ЯК ШМАТ СКАРГАЎ МЫ АТРЫМЛІВАЛІ НАКОНТ ГЭТАЙ КАВАВАРЦЫ? УВЕСЬ ЧАС ТРАПЛЯЕ ПЯСОК? ПАКУП-НІКІ ПРЫХОДЗЯЦЬ З ПЯСЧЫНКАМІ Ў ЗУБАЙ? БОЖА МОЙ...
А ЗАРАЗ СУР'ЁЗНА. САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ У НАШ НОВЫ БАНК, КАМАНДА. ЁН СУЧАСНЫ, АЛЕ ПАВАЖАЕ ЗАМОЖНУЮ ГІСТОРЫЮ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА ГОТЭМА, ПАДАЮЧЫ ЛЕПШАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ, ЛЕПШУЮ СТРАТЭГІЮ І ЛЕПШЫЯ МЕРЫ БЯСПЕКІ.
ЦЯПЕР ЧАСТУЙЦЕСЯ ТОРТАМ!
ГЭТА ЦУДОЎНА, СЭМ. ДЗЕ ТЫ ЗНАЙШОЎ ГЭТА МЕСЦА?
ГЭТА З ТОЙ МАЛЕНЬКАЙ ПЯКАРНІ, ШТО КАЛЯ СТАРОЙ ЭЛЕКТРА...
ТУК, ТУК.


DC COMICS
З гонарам
прадстаўляе
Новыя 52:
Пралог!
Бэтмэн...
УЧАРАШНІ
СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ
СКОТ СНАЙДЭР
сцэнар
ГРЭГ КАПУЛА
малюнак
ДЖОНАТАН
ГЛАПІЁН
чарніла
ХТО ТАМ?
ГІСТОРЫЯ.
ГІСТОРЫЯ? ШТО...
БАХ. ТЫ МЁРТВЫ, ІДЫЁТ. БО ТЫ ЗАБЫЎ МЯНЕ.
Бэтмэн
створаны
Бобам
Кейнам
ФРАНСЫСКА
ПЛАЦЭНСІЯ
колер
РЫЧАРД СТАРКІНГС і
ДЖЫМІ БЕТАНКОРТ з КОМІКРАФТА
шрыфты
КЭЦІ КУБЕРТ
пам. рэдактара
МАЙК МАРТС
рэдактар
ГРЭГ КАПУЛА і
ФСО ПЛАЦЭНСІЯ
вокладка
ЭНДЗІ КЛАРК і
ФСО ПЛАЦЭНСІЯ
варыянт вокладкі


ТАКІМ ЧЫНАМ, УЗГАДАЙЦЕ СВАЮ ГІСТОРЫЮ, СПАДАРЫ І СПАДАРЫНІ.
А ГІСТАРЫЧНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКЕ ГОТЭМА ПРАЦАВАЛІ ТАК: ВЫ ЛАЖЫЛІСЯ НА ПАДЛОГУ І ЛЯЖАЛІ ЦІХА, ЯК ЦАРКОЎНЫЯ ПАЦУКІ, А МЫ НЕ ЎПРЫГОЖВАЛІ ВАМІ СЦЕНЫ.
ЗГОДНЫ?
А ЗАРАЗ, БАНДА ЧЫРВОНАГА КАЎПАКА... АБЯРЫЦЕ ІХ ДА НІТКІ!
ТЫ... ТЫ НЕ МАЕШ ПРАВОЎ! ЯК ТЫ ПРАКРАЎСЯ СЮДЫ?
З ДАПАМОГАЙ ГЭТАЙ ШТУЧАЧКІ, ЗРОБЛЕНАЙ ВАШАЙ ЖА КАМАНДАЙ БЯСПЕКІ І СЦЯГНУТАЙ НАМІ.
ЯНА ЎЖО АДКЛЮЧЫЛА ВАШУ СІСТЭМУ ЗАКРЫЦЦЯ СХОВІШЧА, БЯЗГУЧНУЮ ТРЫВОГУ, ГЭТУЮ НОВУЮ ФІРМЕННУЮ КАВАВАРКУ... ТУЮ, ШТО ЎСЁ ЯШЧЭ КЛАДЗЕ ПЯСОК У ПАКУНАЧКІ...
АЛЕ, ВЫ, ВІДАЦЬ, НАЖАЛЬ, НЕ ВЫВУЧЫЛІ МОЙ УРОК ГІСТОРЫІ, МІСТАР ФІНТ.
ЧЫРВОНЫ КАЎПАК ПЯЦЬ, СУПАКОЙ ЯГО.


ЯГО ТРАКЛЯТАЯ ЧАРАПУШКА ЗЛАМАЛА МАЮ ГАРМАТУ, ХЕ.
ВОСЬ, ПЯТЫ... ТРЫМАЙ МАЮ!
ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!
А ЦЯПЕР, ЧЫРВОНЫ КАЎПАК ПЯЦЬ, ПРЫЦЭЛЬСЯ ІМ У СВАЮ ГАЛАВУ.
ХЕ, БОС, ШТО ТЫ...
ЦЭЛЬСЯ ІМ У СВАЮ ГАЛАВУ І СЫМАЙ СВОЙ КАЎПАК.
МОЙ КАЎПАК, АЛЕ...
ЭХ, ДАВАЙ, ПЯТЫ...


БОС, Я НЕ РАЗУМЕЮ. ТЫ СКАЗАЎ СУПАКОІЦЬ ЯГО, НУ, Я І СУПАКОІЎ.
ЧЫРВОНЫ КАЎПАК ПЯЦЬ ЛЮБІЦЬ ЗАБІВАЦЬ.
ЁН БЫ НІКОЛІ НЕ СТУКНУЎ, КАЛІ МОГ СТРЭЛІЦЬ.
АЛЕ Я ПАЛІЧЫЎ, КАЛІ СТРЭЛЮ, ТАДЫ ШУМ...
І ЯШЧЭ ПЯТЫ ЛЯЎШУН.
ТЫ, КІМ БЫ ТЫ НІ БЫЎ, МІСТАР ПАЛІЦЭЙСКІ... ТЫ НЕ ПЯТЫ.
ВЕРАГОДНА, У ЦЯБЕ І ТВАІХ СЯБРОЎ ЁСЦЬ НЕШТА НА ЯГО, АЛЕ ВЫ НЕ ЗДОЛЕЛІ ПЕРАЦЯГНУЦЬ ЯГО НА СВОЙ БОК, ТАКІ ВОСЬ ЁН ЧАЛАВЕК, І ТАМУ ТЫ ВЫРАШЫЎ ЗРАБІЦЬ... ГЭТА? ЗНАЧЫЦЬ, ВОСЬ ШТО МЫ ЗРОБІМ...
ТЫ РАСПЫРСКАЕШ СВАЕ МАЗГІ ПА СЦЕНАХ, ТУТ І ЦЯПЕР. КАЛІ НЕ ЗРОБІШ ГЭТАГА, МЫ ЗАБЯРЭМ ЦЯБЕ З САБОЙ І БУДЗЕМ РАБІЦЬ УСЁ, ШТО НАМ ПРЫЙДЗЕ НА ДУМКУ.
ДОБРА... ЗГОДЗЕН. ТОЛЬКІ... НЕ ЧАПАЙЦЕ ТУТ НІКОГА.
ХА! НІКОГА НЕ ЧАПАЦЬ? АЗІРНІСЯ НАВОКАЛ, БЛІН!


ЯНЫ ЎСЕ МЁРТВЫЯ! МЫ ЯШЧЭ ЎЧОРА АТРУЦІЛІ ТОРТ!
ЦЯПЕР ДАВАЙ, ПАЛІЦЭЙСКІ. У РОТ. ЗАРАЗ ЖА.
...ДАВАЙ УЖО, НУ? МНЕ ПАЧЫНАЕ НАДАКУЧАЦЬ!
ТАДЫ ДАЗВОЛЬ МНЕ ЎНЕСЦІ ЗМЕНЫ.


ГЛУПА, БРУС.
ГЛУПА.
ТРЭБА БЫЛО ПАДРЫХТАВАЦЦА.
ТРЭБА БЫЛО БОЛЬШ ЧАСУ
ВЫВУЧЫЦЬ ЯГО І ЎСЮ БАНДУ.
АЛЕ НЕ, ТЫ ХАЦЕЎ ПРАКРАСЦІСЯ
Ў БАНДУ ЧЫРВОНАГА КАЎПАКА
ДА РАБАВАННЯ. ПАГЛЯДЗЕЦЬ
НА ІХ У СПРАВЕ.
ЯК СКАЗАЎ
БЫ АЛЬФРЭД...
...БУДЗЬ АСЦЯРОЖНЫ СА
СВАІМІ ЖАДАННЯМІ, БРУС.


УХ!
СПЫНІСЯ НА МЕСЦЫ!
О, НЕ.
У ЯГО НЕШТА Ў РУКАХ!
ГЭТА ГАРМАТА! ДУМАЮ, ГЭТА ГАРМАТА!
ПОЛИЦИЯ ГП


НУ, НУ... АБАРОНЦЫ ГОТЭМА!
ЗАБІЦЬ УСІХ!
ЯНЫ ВЫХОДЗЯЦЬ! ПАЛІ! ПАЛІ!
ПОЛІ



ВЕШАЛКА.
МАЙСТАР БРУС?
Я ТУТ, АЛЬФРЭД.
О, БАЧУ, ВЫ ЗМАГЛІ ПЕРАЖЫЦЬ ЯШЧЭ АДНУ НОЧ.
НУ, ТАК...


...НОЧ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА.
ВОСЬ ТЫ ДЗЕ! НЕ ВЕДАЎ, ШТО ТУТ ВОДЗЯЦЦА АЛІГАТАРЫ?
СЭР, ГЭТА СТРЭЛЫ?
СЭР?
ПАКАЗЧЫК ТАЕМНАГА ХОДА ЎСЁ ЯШЧЭ ВЫКЛЮЧАНЫ...
ПРАБАЧЦЕ, СЭР. Я Ж ПАПЯРЭЖВАЎ, ШТО КІРАВАННЕ СУПЕРКАМПУТАРАМ УВАХОДЗІЦЬ У КОЛА МАІХ МАГЧЫМАСЦЯЎ.
У МЯНЕ НЯМА ХВІЛІНКІ, АЛЬФРЭД.
ХВІЛІНКУ, ЗАРАЗ...
БОЖА ЛІТАСЦІВЫ... ВОСЬ! ПРАЦУЕ?
ЦУДОЎНА...


«...ТЫ САПРАЎДНЫ ХАКЕР».
СЭР, КАЛІ ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ЧАСЦЯКОМ УВАХОДЗІЦЬ З ПОЎДНЯ, ЦІ МАГУ Я ПРАПАНАВАЦЬ ЗЛУЧЫЦЬ ГЭТЫ АСАБНЯК...
ДОМ, АЛЬФРЭД. ЦЯПЕР ГЭТА ДОМ. А НЕ ПРОСТА «ГЭТЫ АСАБНЯК».
МАЕ ВЫБАЧЭННІ, АЛЕ Я НЕ АДМАЎЛЯЮСЯ АД МАЁНТКА, ЯК ВІДАЦЬ, ЗРАБІЛІ ВЫ.


МАЕ БАЦЬКІ ПАМЕРЛІ Ў ДВАНАЦЦАЦІ МЕТРАХ АД НАШЫХ НОВЫХ ПАРАДНЫХ ДЗВЕРАХ. ВОСЬ ДЗЕ Я ПАВІНЕН БЫЦЬ, АЛЬФРЭД. ВОСЬ АДКУЛЬ ПАЧЫНАЕЦЦА МАЯ ВАЙНА.
І ЯК СПРАВЫ НА ВАШЫМ ФРОНЦЕ, СЭР?
НЕ ТАК, ЯК ХАЦЕЛАСЯ Б. АЛЕ Я ПРАЦУЮ НАД ГЭТЫМ. НЕДАСТАТКОВА ХУТКА, АЛЕ Я ХУТКА ВУЧУСЯ.
АЛЕ Я НЕДАСТАТКОВА ПАДРЫХТАВАНЫ. УСЁ ЯШЧЭ. У МЯНЕ ЁСЦЬ ТЭХНІКА. ЁСЦЬ ЗБРОЯ. Я ПАВІНЕН БЫЦЬ У СТАНЕ ЗМАГАЦЦА НА ГЭТАЙ ВАЙНЕ БЕЗ ТАГО, КАБ ХТОСЬЦІ НАВАТ ВЕДАЎ, ШТО Я ІСНУЮ.
АЛЕ ЧАГОСЬЦІ НЕ СТАЕ. НЯ ВЕДАЮ, ЧАГО...
МАГЧЫМА, ВЯРТАННЕ Ў ВАШ СЯМЕЙНЫ ДОМ ДАСЦЬ ВАМ ТОЕ, У ЧЫМ ВЫ МАЕЦЕ ПАТРЭБУ. ВЫДАТКУЙЦЕ ТРОХІ ЧАСУ НА ТОЕ, КАБ ЗНОЎ ДАВЕДАЦЦА ПРА БРУСА ЎЭЙНА.
БРУС УЭЙН БОЛЬШ НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ, АЛЬФРЭД, ЁН МАСКА.
ГЭТА ЎСЁ, ЧЫМ МНЕ ТРЭБА БЫЦЬ. ГЭТА ТОЕ, ХТО Я ЁСЦЬ.



КАЛІ ДАЗВОЛІЦЕ, СЭР... ВАШЫЯ БАЦЬКІ БЫЛІ ТЫМ, КІМ ЯНЫ БЫЛІ, КАЛІ ПРЫЙШЛОСЯ ЗМЯНІЦЬ ТВАР ГЭТАГА ГОРАДА, ТАМУ ШТО БЫЛІ ЎЭЙНАМІ. ГЭТА ЗРАБІЛА ІХ ВЫСАКАРОДНЫМІ І ПАСПЯХОВЫМІ.
ПАКУЛЬ ВЫ НЕ ЗРАЗУМЕЕЦЕ ГЭТАГА, Я НЕ БАЧУ МАГЧЫМАСЦІ, ЯК ГЭТЫ ВАШ МАЛЕНЬКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ СПРАЦУЕ.
ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, Я Б ПРАПАНАВАЎ ВАМ ПРЫНЯЦЬ ХОЦЬ ЯКІСЬЦІ ВЫГЛЯД ТОГА БРУСА ЎЭЙНА, ЯКОГА ГОТЭМ ХОЧА БАЧЫЦЬ ПАСЛЯ ВАШАГА ВЯРТАННЯ.
КАЛІ ВЫ ГЭТАГА НЕ ЗРОБІЦЕ, ЗАПЭЎНІВАЮ ВАС, У ЛЮДЗЕЙ БУДУЦЬ ШЫРЫЦЦА ПАДАЗРОНЫ, І ДАСТАТКОВА ХУТКА ЎЛАДЫ ВЯСВЯТЛЯЦЬ, ШТО ГЭТА ВЫ ВЯДЗЕЦЕ ВАЙНУ З БАНДАЙ ЧЫРВОНАГА КАПЕЛЮША, КАБ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ І СПАДЧЫНУ ЎЭЙНАЎ, ВАМ ТРЭБА...
МНЕ ТРЭБА...
...ГЭТА?
ПРЫЛАДА, ЯКАЯ НЕ ПАКІДАЕ СЛЯДОЎ. БЕЗ ПАКРЫЦЦЯ. НІЧОГА, ШТО ПАКАЗВАЛА Б НА МЯНЕ.
ЗБРОЯ, ЯКАЯ Б'Е, КАЛІ ВОРАГІ МЕНШ ЗА ЎСЁ ЧАКАЮЦЬ ГЭТАГА.
ГЭТА ЎСЁ ДОБРА, СЭР, АЛЕ, КАЛІ ЛАСКА, СКАЖЫЦЕ, ШТО ВЫ НЕ БУДЗЕЦЕ КАРЫСТАЦЦА ГЭТАЙ ЖУДАСНАЙ РЭЧЧУ НА ДАХУ, ДЗЕ КОЖНЫ МОЖА...
АДПАЧНІ, АЛЬФРЭД...


«...Я ПРЫХАВАЎ ЯЕ».
ПРАГРАМА: ТРЫЦЦАЦЬ СЯКУНД.
0:17
0:03
ПРАЦУЕ. А ЯК НАКОНТ... ЧАТЫРОХ ХВІЛІН?
МАЙСТАР БРУС, ХТОСЬЦІ ПРЫЙШОЎ ПАБАЧЫЦЦА З ВАМІ...
СКАЖЫ, КАБ ПАЧАКАЛІ, АЛЬФРЭД.
Я СКАЖУ, СЭР...


...АЛЕ ГЭТА ПАЛІЦЫЯ.
МІСТАР УЭЙН?
ЁСЦЬ ЧАС ДЛЯ КАРОТКАЙ РАЗМОВЫ?
Я СПРАБАВАЎ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ВАС, СЭР, АЛЕ УНУТРАНАЯ СУВЯЗЬ, ВІДАЦЬ, ЯШЧЭ НЕ ПРАЦУЕ.
3:38
ДОБРА. БАЮСЯ, ВАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫБАЧЫЦЬ НАС, ЛЕЙТЫНАНТ ГОРДАН. МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ВЫПРАЎЛЯЕМ НЕДАРЭЧНАСЦІ. ДАВАЙЦЕ СПУСЦІМСЯ ЎНІЗ, ДЗЕ ЎЖО НАДЫЙШЛО НОВАЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ.
Я БЫ ХАЦЕЎ ЗАСТАЦЦА ТУТ, КАЛІ ВЫ БУДЗЕЦЕ ПАБЛАЖЛІВЫЯ ДА МАЁЙ ШКОДНАЙ ЗВЫЧКІ?
3:21
...
КАНЕШНЕ.
3:10


ЯК ПАЖАДАЕЦЕ. АЛЬФРЭД, ЦІ НЕ ДАСІ НАМ СЯКУНДАЧКУ?
ЧЫМ МАГУ ДАПАМАГЦІ, ЛЕЙТЫНАНТ?
СУМЛЕННА КАЖУЧЫ, МІСТАР УЭЙН, НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ВЫ МОЖАЦЕ.
ЯК Я РАЗУМЕЮ, ВЫ БЫЛІ НЕ ВЕЛЬМІ ЎЦЯГНУТЫ Ў ПРАЦУ ЎЭЙН ЭНТЭРПРАЙЗЭС, З ТЫХ ЧАСОЎ ЯК ВЯРНУЛІСЯ Ў ГОТЭМ ТРЫ МЕСЯЦЫ НАЗАД, ГЭТА ТАК?
НУ, МЯНЕ НЕ БЫЛО ЧАТЫРЫ ГАДЫ. МЕНЬШ ЗА ЎСЯ Я ПРЭТЭНДУЮ НА ЗВАННЕ ГОТЭМСКАГА БІЗНЭСМЭНА.
КАЛІ ГЭТА ТОЕ, З-ЗА ЧАГО ВЫ ТУТ, ТАДЫ, БАЮСЯ, ВЫ МАЕЦЕ РАЦЫЮ. Я МАЛА ЧЫМ МАГУ ДАПАМАГЦІ.
НЕ, ГЭТА ТОЕ, ЧАМУ Я ХАЦЕЎ ПАГАВАРЫЦЬ З ВАМІ, МІСТАР УЭЙН. ТАМУ ШТО ВЫ НЕ ЎЦЯГНУТЫ.
ЦЯПЕР Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ ЗА ЎСЯКУЮ НЯЗРУЧНАСЦЬ, ЯКУЮ ГЭТА МОЖА ВАМ ПРЫЧЫНІЦЬ, АЛЕ, ШЧЫРА КАЖУЧЫ, Я ПРЫЙШОЎ УСВЯДОМІЦЦА Ў ТЫМ, ШТО ВАША СЯМЕЙНАЯ КАМПАНІЯ...
...СКАЖАМ, ЯЕ СПРАВЫ МОГУЦЬ ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД КАНТРОЛЮ. ЦЯПЕР ЧАЛАВЕК, ЯКІ КІРУЕ КАМПАНІЯЙ, ФІЛІП КЕЙН...
ЧАСТКА СЯМ'І, ЛЕЙТЫНАНТ.


1:48
Я РАЗУМЕЮ ГЭТА. АЛЕ З КОЖНЫМ ДНЁМ Я ЎСЁ БОЛЬШ НЕПАКОЮСЯ ЗА ЛЕГАЛЬНАСЦЬ ПРАЕКТАЎ, ЯКІЯ ЁН РАСПРАЦОЎВАЕ ТУТ, НА ГАРАДСКОЙ ЗЯМЛІ.
У ВАС ЁСЦЬ ДОКАЗЫ, ЛЕЙТЫНАНТ?
ЭХ. НЕ. ТОЛЬКІ ЧУТКІ ДЫ ЗДАГАДКІ. І ВЯЛІЗНАЯ НЕАБХОДНАЙ ПІСАНІНЫ.
ШТО Ж, МНЕ ШКАДА, АЛЕ, БАЮСЯ, НІЧЫМ НЕ МАГУ ДАПАМАГЦІ. ТАКІМ ЧЫНАМ, КАЛІ ГЭТА ЎСЁ...
КАНЕШНЕ.
ХАЦЯ ЁСЦЬ ЯШЧЭ ШТОСЬЦІ...
ДА НАС ПРЫЙШЛІ СПРАВАЗДАЧЫ ПРА... МСЦІЎЦА Ў ГЭТЫМ РАЁНЕ. НЕХТА ШАНДОХАЕЦЦА ТУТ ПА НАЧАХ, СПЫНЯЮЧЫ ЗЛАЧЫНСТВЫ.
НАРОДНАЕ АПАЛЧЭННЕ?
ХЕХ. ГЭТЫ ХЛОПЕЦ, ВІДАЦЬ, З ТЫХ, ХТО ВЫШЭЙ. У ЯГО ЁСЦЬ СРОДКІ. ТЭХНІКА, АД ЯКОЙ НАШЫЯ АЙЦІШНІКІ Ў ЗАХАПЛЕННІ, ЯК ПАДЛЕТКІ.
ПРА ШТО ВЫ МЯНЕ ПЫТАЕЦЕСЯ, ЛЕЙТЫНАНТ?
Я ПЫТАЮ, ЦІ НЕ ЧУЛІ ВЫ ПРА ГЭТА ШТО-НЕБУДЗЬ, ВОСЬ І ЎСЁ.
БАЮСЯ, НІЧЫМ НЕ МАГУ ДАПАМАГЦІ.


ДОБРА. БО Я КАЖУ ВАМ, ШТО ЛЮБЫ, ХТО ДАПАМАГАЕ ГЭТАМУ ЧАЛАВЕКУ, ХТО ВЕДАЕ ПРА ЯГО ХАЦЯ Б АДЗІН ФАКТ І МАЎЧЫЦЬ...
...ПАТРАПІЦЬ У ТУРМУ. І З ЯГО І ЯГО СЯМ'І АТРЫМАЕЦЦА ВЕЛЬМІ ПАКАЗАЛЬНЫ ПРЫКЛАД.
ЗРАЗУМЕЛА. АЛЕ Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ЦІ МАЕ ГЭТА ХОЦЬ НЕЙКАЕ ДАЧЫНЕННЕ ДА МЯНЕ.
ВЕРАГОДНА, НІЯКАГА. АЛЕ, БАЧЫЦЕ ШТО, ВЫ ВЯРНУЛІСЯ Ў ГОТЭМ І ПЕРШАЕ, ШТО ЗРАБІЛІ, ГЭТА ЎСТАЛЯВАЛІ ТУТ СВОЙ СЦЯГ, У АЛЕІ ЗЛАЧЫНСТВАЎ, У ГОРШЫМ З ГОРШЫХ МЕСЦАЎ, КАЛІ МАГЛІ Б БЫЦЬ ВА ЎТУЛЬНЫМ МАЁНТКУ.
Я НЕПАКОЮСЯ, ШТО, КАЛІ Б ВЫ СУТЫКНУЛІСЯ З ГЭТЫМ ЧАЛАВЕКАМ, З ГЭТЫМ МСЦІЎЦАМ, ВЫ Б СПАЧУВАЛІ ЯМУ. У ВАС ТУТ, ЗДАЕЦЦА, НЕЙКІ КРЫЖОВЫ ПАХОЖ.
ХЕ, НУ, ВАМ НЯМА ПРА ШТО НЕПАКОІЦЦА. Я НЕ БУДУ ВАДЗІЦЦА НІ З ЯКІМІ МСЦІЎЦАМІ. АЛЕ СМЕШНА ТОЕ, ШТО, ЯК Я ЧУЎ, ВЫ САМІ ТРОШКІ КРЫЖАК.
І ЯК?
БАЮСЯ, ТАК І ЁСЦЬ.
ШТО Ж, МНЕ ЛЕПШ РАЗВЕЯЦЬ ГЭТЫ МІФ НАСТОЛЬКА ХУТКА, НАКОЛЬКІ МАГЧЫМА. Я ЧУЎ ПРА КРЫЖАКОЎ У ГОТЭМЕ, ІМ ДА Д'ЯБЛА АДЗІНОКА.
ДЗЫНЬ
«ВОСЬ ТАК ВОТ».


ГЭТА ГНЯЗДО ЎЭЙНАЎ?
ТАК, БОС. ШТО ТЫ АД НАС ХОЧАШ?
А ЯК ВЫ ДУМАЕЦЕ? НЯХАЙ УСЁ ВЫБУХНЕ ДА Д'ЯБЛА.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ!



ПЯЦЬ ГАДОЎ РАНЕЙ...
ТАТКА, ПАТЛУМАЧ ЯШЧЭ РАЗ. ПАТЛУМАЧ, ЧАМУ ГЭТА НЕ УТРАПЁНАСЦЬ.
БАРБАРА, НЯЎЖО ТАБЕ НЯ ТРЭБА ВУЧЫЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ?
ТАТА. КАЛІ ЛАСКА, ЗРАБІЦЬ ГЭТА, ЗНАЧЫЦЬ ПРЫЗНАЦЦА, ШТО Ў ЦЯБЕ НЯМА ЎЛАДЫ.
ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПЕРАКУЛЬНУЦЬ УСЮ СІСТЭМУ ПРАВАСУДДЗЯ Ў ГОТЭМЕ З НОГ НА ГАЛАВУ!
ЭХ.
У ГЭТЫМ УСЯ І СПРАВА. У ГОТЭМЕ НЯМА СІСТЭМУ ПРАВАСУДДЗЯ. АЛЕ ЁСЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ, І НАМ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА, КАБ ЗБЕРАГЦІ ЯЕ.
ЗАЎТРА
ДЖЭЙМ ТЫНІЁН IV - сцэнар
ЭНДЗІ КЛАРК - малюнак
ФРАНСЫСКА ПЛАЦЕНСІЯ - колер
ПАТРЫК БРОСО - шрыфт
КЭЦІ КУБЕРТ - памошнік рэдактара
МАЙК МАРТС - рэдактар
САМ ФАКТ, ШТО Я СТАЮ ТУТ І ШТО ІНШЫЯ ПРЫСТОЙНЫЯ СЛУГІ НАРОДА ПАЧЫНАЮЦЬ ПАДЫМАЦЬ ГАЛАВУ... УСЁ ГЭТА З-ЗА АДНАГО ЧАЛАВЕКА... З-ЗА БЭТМЭНА.
ТЫ БАЧЫЛА ЯГО ЯК РАЗ НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ Ў ГЭТЫМ САМЫМ БУДЫНКУ... БАЧЫЛА, ШТО ЁН МОЖА. ВОСЬ ЧАМУ Я ХАЦЕЎ ПРЫВЕСЦІ ЦЯБЕ СЮДЫ ГЭТАЙ НОЧЧУ.
ГЭТА ЛЮДЗІ... ЯНЫ ДУМАЮЦЬ, ШТО ЁН УСЯГО ТА МІФ... СТРАШЫДЛА ДЛЯ ЗЛАЧЫНЦАЎ, ЯКІЯ ВЫДУМАЛА ПРЭСА, КАБ ПРАДАВАЦЬ ГАЗЭТЫ.
МЫ ПАВІННЫ ЗМЯНІЦЬ ГЭТА, БАРБАРА. ІНАЧАЙ ГЭТАМУ ГОРАДУ НЕ НА ШТА БУДЗЕ СПАДЗЯВАЦЦА.


«МЫ ПАВІННЫ ПАВЕДАМІЦЬ ЗАЎТРАШНІМ ГЕРОЯМ, ШТО ЯНЫ НЕ АДЗІНОКІ».
ЦІМАЦІ, ТЫ НАОГУЛ ЧУЕШ МЯНЕ?
АКАДЭМІЯ ГРЭЙСТОЎН
О, ВЕЛЬМІ ЎВАЖЛІВЫ. ПРОСТА АДПРАЎЛЯЮ СМС. НУ, РАЗУМЕЕЦЕ... ЦЯЖКІ ДЗЕНЬ, І ЎСЁ ТАКОЕ.
Я ТОЛЬКІ ШТО, КАЗАЎ, ШТО ЦЯБЕ АДЛІЧЫЛІ З-ЗА ЎЗЛОМ КАМПУТЭРА МІСТАРА АРЧЭРА, А ТЫ ПІШАШ ПАВЕДАМЛЕННЕ НА ПРЫЛАДЗЕ, ЯКАЯ ПРЫНЦЫПОВА ЗАБАРОНЕНА Ў ГЭТАЙ ШКОЛЕ?
ВЫ ДУМАЕЦЕ, ШТО З-ЗА ВЫКЛЮЧЭННЯ Я ЦЯПЕР НЕ БУДУ КАРЫСТАЦЦА СМАРТФОНАМІ... АЛЕ ЗНОЎ ЖА, ВЫ НЕ ВЫКЛЮЧЫЦЕ МЯНЕ, МІСТАР РЭНФІЛД.
ЧАМУ НЕ? Я Ж НЕ АДАРВАЎ ЦЯБЕ АД ТВАІХ ВЕЧАРОВЫХ ЗАНЯТКАЎ ГІМНАСТЫКАЙ, КАБ ПАЧАСЦІЦЬ ЦЯБЕ ПЕРНІКАМ, ЦІМАЦІ.
НА САМОЙ СПРАВЕ ЁСЦЬ НЕКАЛЬКІ ПРЫЧЫН...
...ПА-ПЕРШАЕ, ВЫ ХУТКА ВЫСВЯТЛІЦЕ, ШТО Я ПРАЙШОЎ АПОШНІ ТЭСТ НА ПРЫДАТНАСЦЬ, ЯКІ ВЫ МНЕ НАВЯЗАЛІ, КАБ ДАКАЗАЦЬ, ШТО Я МАХЛЮЮ НА ІСПЫТАХ.
(ШТО Я, ДАРЭЧЫ, НЕ РАБЛЮ). І ВЫ НЕ ВЫКІНЕЦЕ СА ШКОЛЫ ЛЕПШАГА ВУЧНЯ.
І, НА САМОЙ СПРАВЕ, Я ЎЛЕЗ НЕ ТОЛЬКІ Ў КАМПУТАР МІСТАРА АРЧЭРА... АЛЕ І ВА ЎСЮ НАСТАЎНІЦКУЮ СЕТКУ...
НУ І ЗА ГЭТАЙ ПРЫЧЫНАЙ ВЫНІКАЕ НАСТУПНАЯ. Я ДУМАЮ, ШТО ВЫ НЕ ВЕЛЬМІ ДОЎГА БУДЗЕЦЕ ЗАЙМАЦЬ ПАСАДУ ДЫРЭКТАРА, МІСТАР РЭНФІЛД.


ЦІМАЦІ, ШТО...
ВЫ ЎЗЯЛІ Ў АКАДЭМІІ ПРЫКЛАДНА $1,6 МІЛЬЁНАЎ ЗА АПОШНІЯ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ. У МЯНЕ ТУТ УСЯ ЧАРГА ГРАШОВЫХ АПЕРАЦЫЙ ПРАМА НА ТЭЛЕФОНЕ.
ШЧЫРА КАЖУЧЫ, ЛІЧЫЎ, БУДЗЕ ЦІКАВЕЙ СХАПІЦЬ ВАС НА МЕСЦЫ ЗЛАЧЫНСТВА... СПАБОРНІЦТВА ТАКОЕ, РАЗУМЕЕЦЕ? АЛЕ ВЫ ДА СМЕШНАГА СПРАСЦІЛІ ГЭТА.
НАПРЫКЛАД... НАКОЛЬКІ ГЛУПЫМ ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН БЫЦЬ, КАБ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ СВАЮ ШКОЛЬНУЮ ЭЛЕКТРОННУЮ СКРЫНЮ, КАБ ВЫМАГАЦЬ ГРОШЫ НА НЕІСНУЮЧЫЯ АКАДЭМІЧНЫЯ ПРАЕКТЫ?
ЯК...
Я РАЗБЛЫТВАЎ ГЭТА НАПРАЦЯГУ МЕСЯЦАЎ. ПАФАСНАЯ ТАЧКА, НОВЫ ГАДЗІННІК... АЛЕ ГЭТА НЕ ВАЖНА. У САПРАЎДНАСЦІ, СПРАВА ХУТЧЭЙ У ХАРАКТАРЫ.
ТОЕ, ЯК ВЫ ЗВЯРТАЕЦЕСЯ СА СВАІМІ ВУЧНЯМІ І НАСТАЎНІЦКІМ СКЛАДАМ... ВЫ ДРЭННЫ ЧАЛАВЕК, МІСТАР РЭНФІЛД. МНЕ ТРЭБА БЫЛО ТОЛЬКІ ПАШУКАЦЬ ТРОШКІ ГЛЫБЕЙ, КАБ ВЫСВЯТЛІЦЬ, НАКОЛЬКІ ДРЭННЫ.
ТУК ТУК
О, ДЗЕСЯЦЬ З ДЗЕСЯЦІ, ШТО ГЭТА ПАЛІЦЫЯ.
ДАРЭЧЫ, ГЭТА ІМ Я АДАСЛАЎ ПАВЕДАМЛЕННЕ. Я ПРОСТА ХАЦЕЎ УПЭЎНІЦЦА, ШТО ЗМАГУ СПЫТАЦЬ ВАС ПРА ШТОСЬЦІ, ПАКУЛЬ ЯНЫ ВАС НЕ ЗАБРАЛІ...
ГЭТЫ АПОШНІ ТЭСТ... ГЭТА БЫЛО ТОЕ, ПРА ШТО Я ПАДУМАЎ?
...ГЭТА БЫЎ ВЫПУСКНЫ ІСПЫТ.
ШТО Ж, ТАДЫ МНЕ ЛЕПШ ПАЧАЦЬ ВЫБІРАЦЬ КАЛЕДЖ, ТАК?
АЛЕ, КАЛІ ВАМ УСЁ АДНО, Я Б ЖАДАЎ СПАЧАТКУ СКОНЧЫЦЬ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ. КАНЕШНЕ, АД ВАС ПА ГЭТАЙ НАГОДЗЕ Я НІЧОГА АСАБЛІВАГА НЕ ЧАКАЮ...


МакЛарни
24-7
КРУГЛОСУТОЧНО
ГЭТА РАБАВАННЕ!
ЗАСТАВАЙСЯ НА ДЗВЯРАХ, ЧУВАК. І САЧЫ ЗА ТЫМ, КАБ ТАЯ ЛЕДЗІ НЕ ТУЗАЛАСЯ.
К-КАЛІ ЛАСКА, НЕ КРАНАЙЦЕ МЯНЕ... Я НЕ...
ШШ... ТАБЕ НЕ ТРЭБА ХВАЛЯВАЦЦА.
Я ТОЛЬКІ ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОПЕЦ У ДРЭННЫМ МЕСЦЫ. МЫ ТОЛЬКІ СПРАБУЕМ ЗДАБЫЦЬ ТРОШКІ ГРОШАЎ НА ЕЖУ ДЫ ЖЫЛЛЁ.
МЯНЕ КЛІЧУЦЬ ДЖЭЙСАН... І Я АБЯЦАЮ, ТЫ НЕ ПАПАКУТУЕШ. ГЭТА ЎСЁ СКОНЧЫЦЦА ПРАЗ ХВІЛІНУ.
ІДЫЁТ...
ТЫ СКАЗАЎ ЁЙ СВАЁ ІМЯ? З-ЗА ЦЯБЕ НАС АБОДВУХ ПАСОДЗЮЦЬ! ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ СТАЯЦЬ НА ДЗВЯРАХ... ТЫ МОЖАШ ХОЦЬ ШТОСЬЦІ ЗРАБІЦЬ ПРАВІЛЬНА?
Я САМ ТУТ УСЁ НАЛАДЖУ...
НЕ!
БЛАМ
БЯЖЫМ, ЧУВАК! ТРЭБА ХУТЧЭЙ!


ДАВАЙ, ДЖЭЙСАН. НАМ ТРЭБА ВАРУШЫЦЦА...
ЯНА... ЯНА БОЛЬШ ЗУСІМ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ ВАРУШЫЦЦА.
ГЭТА БЫЛІ ЎСЯГО ТОЛЬКІ ГРОШЫ, КРЫС! ТЫ СКАЗАЎ, ГАРМАТА НЕ ЗАРАДЖАНА!
ТЫ АБЯЦАЎ, ШТО НІХТО НЕ ПАПАКУТВАЕ!
Я ПАВІНЕН ПРАСАЧЫЦЬ... КАБ БОЛЬШ ТЫ НІКАЛІ НІКОМУ НЕ НАШКОДЗІЎ.
АДЧАПІСЯ АД ЯГО!
ЁН ЗАСТРЭЛІЎ ЖАНЧЫНУ НА ТОЙ ВУЛІЦЫ. ЗАБІЎ ЯЕ... Я ТОЛЬКІ... Я СПЫНІЎ ЯГО. МНЕ ТРЭБА БЫЛО СПЫНІЦЬ ЯГО.
ШТО Ж, ТЫ ЗРАБІЎ ПРАВІЛЬНА. І ЦЯПЕР, ВІДАЦЬ, ЁН УЖО НЕ ВЯЛІКАЯ ПАГРОЗА, ТАК?
ЯК СКАЖЫЦЕ, АФІЦЭР.



АСЦЯРОЖНА, ДЗІК...
ЁН ВЫКРАЎ МАЮ ТОРБАЧКУ!
ХМ?
ГЭЙ, ЛАЙДАК!
ШМЯК
ДАЗВОЛЬ ГЛЕДЗІШЧЫ РАБІЦЬ ПРАФЕСІЯНАЛАМ!
ДАВОЛІ ВЫТАНЧАНЫ ГУМАР, ТАК?
Я...
ХАЦІЦЕ АДДЗЯЧЫЦЬ МЯНЕ? ВАМ ТОЛЬКІ ТРЭБА ПРЫЙСЦІ ЗАЎТРА НА ВЯЛІКАЕ ВІДОВІШЧА... ЛЯТАЮЧЫЯ ГРЭЙСАНЫ. СА МНОЙ У ГАЛОЎНАЙ РОЛІ!
МАГЧЫМА, МАЕ РАБЯТЫ ПАСПРАЧАЛІСЯ З ГЭТАЙ ЗАЯВАЙ, АЛЕ БЕЗ ДЗІКА ГРЭЙСАНА НЯМА І ЛЯТАЮЧЫХ ГРЭЙСАНАЎ! ТАК ЦІ ІНАЧАЙ, БУДЗЕ ПАЦЕШНА!
НА САМОЙ СПРАВЕ, НА ГЭТЫХ ВЫХОДНЫХ МЫ ЛАДЗІМ ВІДОВІШЧЫ ДЛЯ САМОГА БРУСА ЎЭЙНА! ФАЙНА, ТАК? ЧАМУ Я...
А?


КУДЫ ЎСЕ ГЛЯДЗЯЦЬ?
ОГО..
...
БЛІН, ЯК ФАЙНА...
«І ТВАЁ РАШЭННЕ ДА ЎСЯГО ГЭТАГА – ГЭТА БЭТ-ЛІХТАР?»


ГЭТА БОЛЬШ, ЧЫМ ПРОСТА ЛІХТАР, БАРБАРА.
ГЭТА СІГНАЛ.
СІГНАЛ ГОТЭМУ, ШТО ІХ ТАЕМНЫЯ СПАДЗЯВАННІ НА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ, НА ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ... ГЭТА НЕ ПРОСТА ФАНТАЗІІ.
НЯ КАЖУЧЫ ПРА ТОЕ, ШТО ДА ГЭТАГА МОМАНТУ З ІМ БЫЛО НЕМАГЧЫМА ЗВЯЗАЦЦА...
ЦЯПЕР ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО ЯГО ЎБАЧАЦЬ ПРАВІЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ.
УБАЧАЦЬ, ТАТ. Я Ў ЦЯБЕ ВЕРУ.
ТАДЫ ПАВЕР І Ў ЯГО.
КОЖНЫ, ХТО САПРАЎДЫ СТАІЦЬ ЗА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ У ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ ЗАГАНАЎ... МАЕ ПАТРЭБУ ВА ЎСІМ ДАВЕРУ, ЯКІ ТОЛЬКІ МОЖА АТРЫМАЦЬ.
ТЫ ЗБІРАЕШСЯ СПУСКАЦЦА? ЗДАЕЦЦА, Я ЧУЎ, ЯК УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ЗВАНІЛІ ТЭЛЕФОНЫ.
ПАКУЛЬ НЕ...
...МНЕ ПАТРЭБНА ЯШЧЭ ХВІЛІНКА.
КАНЕЦ







# Бэтмэн

**Першае з'яўленне:**
Ліга Справядлівасці №1 (2011)

**Месца дзеяння:**
Готэм

**Здольнасці:**
Бэтмэн - найвялікшы ў свеце стратэг, дэтэктыў і адзіз з лепшых майстраў рукапашнага бою. Ён мае велізарнае багацце і цэлы арсенал сродкаў барацьбы, а таксама надзейную сетку саюзнікаў і, канешне ж, падтрымку свайго нязменнага прыслужніка Альфрэда.

**Іншыя з'яўленні:**
Бэтмэн №1, Дэтэктыўныя коміксы №1, Бэтмэн і Робін №1, Баявыя коміксы №10, Бэтвумэн №1, Цёмная Ліга Справядлівасці №1, Я, Вампір №4.

# Гісторыя:

Брус Уэйн, калі быў маленькім хлопчыкам, стаў сведкай забойства сваіх бацькоў. Ён вырашыў прысвяціць сваё жыццё барацьбе з цемрай, якая пераследвала яго сям'ю. Выкарыстоўваючы свае велізарныя фінансавыя рэсурсы, Брус адправіўся ў падарожжа па ўсяму свету, каб натрэніраваць свой розум і цела. Ён стаў не толькі непараўнальным майстрам адзінаборстваў, але і стратэгічным геніям і аднім з лепшых у свеце дэтэктываў, завасрыўшы свой інтэлект. Вярнуўшыся ў Готэм, ён апрануў гарнітур Бэтмэна, каб у горада, які так шмат даў і забраў у яго, заўсёды быў абаронца.

З цягам часу, як місія Бэтмэна расла, і ворагаў, з якімі ён сутыкаўся, станавілася ўсё больш, ён паступова навучыўся прымаць дапамогу ў сваім крыжовым паходзе. Да Бэтмэна далучаліся першы Робін - Дзік Грэйсан (зараз Найтвінг), другі Робін - Джэйсан Тод (зараз Чырвоны Каўпак), Чырвоны Робін (таксама вядомы як Цім Дрэйк) і дзейнічы Робін - яго сын Дэміян Уэйн. Таксама да яго далучыліся яго саюзнік з Дэпартамента Паліцыі Готэма камісар Джым Гордан і Бэтгёл (сапраўднае імя - Барабара Гордан). Калі свету пагражае вялікая небяспека, Бэтмэн гатовы абараняць чалавецтва ў шэрагах Лігі Справядлівасці.